


DISTRICTUS

# ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 10 (35)
КАСТРЫЧНІК 2004 г.


# 100 гадоў з дня нараджэння МАР'ЯНА ПЕЦЮКЕВІЧА (1904 - 1983)

**Мар'ян Пецюкевіч**, вядомы беларускі этнограф, актыўны ўдзельнік беларускага нацыянальнага руху. Нарадзіўся 24 верасня 1904 г. у в.Цяцеркі. Пражыў поўнае драматызму жыццё, зведаў пераследы з боку польскіх і савецкіх уладаў. Насуперак усяму заўсёды заставаўся шчырым беларусам, горда нёс свой пакутны крыж. Любіў Беларусь і сваю малую радзіму Браслаўшчыну, родны куточак – вёску Цяцеркі і наваколле. Быў вымушаны працаваць у далёкім Торуні, там і займеў свой апошні прытулак. Марыў быць пахаваным як мага бліжэй да радзімы, каб на магілу даляталі птушкі з родных мясцін. Вельмі важна каб не быў марным творчы заробак Мар'яна Пецюкевіча, каб да яго постаці звярталася памяць удзячных нашчадкаў.



Пётра Сергіевіч. 1934.







*Гэты нумар выдання цалкам прысвечаны юбілею Мар'яна Пецюкевіча.*

# Цяцеркі – родная вёска Мар'яна Пецюкевіча

Назва Цяцеркі значыць рэдкалессе, узлесак.



Паводле перапісу 1897 г. вёска Цяцеркі адносілася да Зайноўскай сельскай грамады Ёдскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні. Знаходзілася ў акружэнні земляў маёнтка Зайнова Святаполк-Мірскіх. Налічвалася 36 двароў, 298 жыхароў, яшчэ 6 двароў (44 жыхары) належылі Святаполк-Мірскім.



У 1905 г. налічвалася 342 жыхары.



У 1920-30-я гады в.Цяцеркі з'яўлялася адным з цэнтраў беларускага руху. Дзейнічалі гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры з бібліятэкай-чытальняй імя Францішка Скарыны, гурток Сялянскага саюзу. Ставіліся беларускія прадстаўленні, ладзіліся вечарыны з беларускімі песнямі і танцамі. Цяцеркі наведвалі вядомыя беларускія дзеячы, у прыватнасці, паслы сойму Павал Каруга, Альбін Стаповіч, Фабіян Ярэміч і іншыя.




*Цяцеркі і наваколле на расійскай карце пач.XX ст.*

У 1931 г. вёска Цяцеркі мела 60 двароў, 320 жыхароў, адносілася да Ёдскай гміны Браслаўскага павета Віленскага ваяводства.



У 1940 г. утвораны Цяцеркаўскі сельскі савет у складзе Браслаўскага раёна Вілейскай вобласці. Сельсавет аб'ядноўваў 59 населеных пунктаў, 3445 жыхароў.



У 1949 г. арганізаваны калгас імя С.Кірава.



У 1991 г. налічвалася 226 жыхароў.

У 2004 г. вёска Цяцеркі мае 58 двароў, 235 жыхароў (150 католікаў, 50 праваслаўных, 35 старавераў). Цэнтр сельсавета (аб'ядноўвае 50 вёсак), цэнтр сельскагаспадарчага вытворчага кааператыву "Цяцеркі". Пачатковая школа, бібліятэка, магазін, ашчадная каса, пошта. Помнік землякам, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны. Бліжэйшы каталіцкі касцёл у в.Барадзінічы, праваслаўная царква у в.Іказнь, стараверскі малельны дом у в.Буеўшчына.

# МАР"ЯН ПЕЦЮКЕВІЧ.
## Пачатак.

Для вясковай беднаты й гарадзкога пралетарыяту веда й навука ў часох царскай рэакцыі, а пасьля ў міжваенных, у пэрыядзе пад уладай панскай Польшчы, - была недаступная з прычыны клясавай прыналежнасьці, эканамічных цяжкасьцяў, а беларусам і дзеля нацыянальных меркаваньняў.

Але былі сярод цёмнага няграматнага й беднага беларускага сялянства адзінкі, бацькі й дзеці, якія марылі аб асьвету, аб навуцы, марылі пра выхад у "шырокі сьвет веды". І ня толькі марылі, але пускаліся на адвагу – зьдзяйсьняць свае мары. Да такіх нешматлікіх адзінак сярод сялянаў належылі й мае бацькі ды іхная сям'я. ... Хацелася падвучыцца столькі граматы, каб дастаць хоць бы на памочніка пісара ў воласьць ці ў іншую установу. Аб вышэйшай, а нават аб сярэдняй адукацыі ня мелі адвагі й рэальных падставаў мроіць ды сьніць і бацькі мае, і я.

Сям'я наша была вялікая: шасьцёра дзяцей, я найстарэйшы, дьзве старыя хвараватыя цёткі, ды здольныя да паўнавартаснай працы бацькі, - усіх разам 10 душ, якія мусілі пражыць з трох гектараў надзельнай і шасьцёх арандаваных у князя Сьвятаполка-Мірскага зямлі. Прытым трэба абавязкова падкрэсьліць, што сялянская гаспадарка ў прыфрантавой паласе, у якой апынуўся наш павет, была цалкам зруйнаваная. Палі былі зрытыя акопамі й скрыпаныя калючымі дратамі. Угодзьдзі за час вайны парасьлі лазьняком, алешнікам і бярэзьнікам. Усё прыдатнае пагалоўе коней было войскам змабілізаванае разам з транспартам. Рагатая жывёла, авечкі, сьвіньні, нават свойскія птушкі былі зьведзеныя нанішто.

На ўсю нашу вялікую вёску Цяцеркі (каля 70 гаспадароў) было пару дзесяткаў коней, дый тыя "інваліды" й старыя. Наш конь Мішка таксама быў "інвалід" – зусім сьляпы. Дабылі мы яго ад расейскіх салдатаў-абозьнікаў, якія некалькі дзён адпачывалі ў нашай вёсцы. Вось гэты Мішка доўга быў нашым карміцелем, ажно да 1925 году.

... Беручы пад увагу ці, інакш кажучы, улічваючы ўсе наяўныя цяжкасьці й перашкоды, мроя аб асьвеце й навуцы была нічым іншым, як фантазіяй, але гэтая фантазія ўкаранілася ў сэрцы майго бацькі й маім блізкім ды не зыходзіла з думкі. Трэба было яшчэ доўга чакаць адпаведнага мамэнту, адпаведнага часу для рэалізаваньня тае "фантазіі".

*(З кнігі: М.Пецюкевіч. У пошуках зачараваных скарбаў. Вільня. 1998. С.14-15*

# МАР"ЯН ПЕЦЮКЕВІЧ:
## Я - «дырэктар» Цяцерскай школы

*Шлях да асветы М.Пецюкевіча пачынаўся з "дамашняй школы" цёткі Паўліны (цётчына "акадэмія"). Пазней ён вучыўся ў расійскай Шаўлянскай школе, прыватнай Барадзінічскай школе, дзе навучанне вялося на беларускай і польскай мовах, прыватнай школе ў Інаве з польскай мовай навучання. Адзін год сам выкладаў у самаарганізаванай школе ў Цяцерках.*

****************************************

... Цяга да асьветы ўсё ж зараджалася ў галовах сьвятлейшых сялян нашае вёскі. Найбольш актыўным арганізатарам школы ў Цяцерках аказаўся вясковы выбарны Станіслаў Крывашонак, які ў вёсцы называўся Стась Хвенчанкоў.

Аднойчы раніцай ў нядзелю пасьля Усіх Сьвятых склікаў ён вяскоўцаў на сход да Касьцюка Савянёнка (праўдзівае прозвішча Кастусь Сапун). Калі большасць гаспадароў сабралася, Стасюк крыкнуў на сабраных: "Замаўчэце! Перастаньце галёкаць! Ціха, ша!" тады Стасюк пачаў сваю прамову:"Суседзі, вы ня ведаеце, нашто я вас паклікаў на сход. Дзела такое. Была вайна, рэвалюцыя, былі чырвоныя, белыя, зялёныя й чорт знаіць, якія ўласьці, а дзеці нашыя, дзяды, бацькі й мы. Заміж сабак ганяць па-за вугольлямі, дык нікай падвучыліся б хоць Богу памаліцца ды пісьмо прачытаць ці нагрэмзаць. Як прыйдзецъ якая павестка ці іншая бумажка з воласьці, або пісьмо, то німа каму й прачытаць. Ідзі ў Інова да папа ці арганістага, нясі яму тузін яек. Чк сабе хочаце, суседзі, а рабят нада падвучыць граматы. Хто яго ведаіць, калі тут на пастаянна ўстановіцца яна, уласьць, і школу адкрыіць. А мальцы вунь якія, павырасталі й што яны ўмеюць? Толькі качулку ганяць, у "сучку" гуляць ды вокны выбіваць сваёй гульнёй. Пакуль будзіць якая казённая, мы павінны сваю школу самі зрабіць.

Сход загудзеў, як ўстрывожаны вулей. Адны падтрымлівалі ініцыятыву выбарнага арганізаваць школу сваімі сродкамі, іншыя, якіх было таксама ня мала, былі й нездэцыдаваныя ў гэтай справе, якія настройвалі два супрацьлеглыя лягеры адзін на аднаго, каб тыя спрачаліся й сьмяяліся з адных і другіх. Кожны зь лягероў стараўся даказаць сваю рацыю. Праціўнікі арганізацыі школы давалі аргумэнты ў асноўным характару матар'яльнага: "Няма хаты пад школу, няма лавак школьных, няма вучыцеля, а калі б і знайшоўся, то чым яму плаціць, калі самі голыя, босыя й галодныя. Няхай усё супакоіцца на сьвеце, то тады будзець відна. Пражылі нашы дзяды, бацькі й мы бяз школы, - нікай пакуль што жывуць безь яе й нашыя дзеці." Так разважалі супраціўнікі школы.

Стасюк Хвашчонак і ягоныя прыхільнікі ўсёж скапітулявалі. У групе тых, хто жадаў школы, быў і мой бацька.

... У арганізацыю школы ўключыліся найбольш сьветлыя сяляне Цяцерак, і гэты актыў за кароткі час пад камандай Стасюка усё падрыхтаваў да адкрыцця школы. Хату пад школу за апал, нанялі ў Памося Карсюкевіча, а настаўнікам вбралі мяне. Пра гэтую "намінацыю" са мною ніхто не дамаўляўся, а толькі з маім бацькам. Калі я пачаў сумлявацца, ці мае вучні равесьнікі й саўдзельнікі "качулкі" і "сучкі" ды іншых гульняў будуць мяне слухаць, выбарны супакоіў мяне словамі: "Ты не бядуй, тут маё дзела, я зраблю зь імі лад і парадак".

Вёска наша ў павеце лічылася адной зь вялікшых і была яна забудаваная па абодвух баках вуліцы ды цягнулася, як казалі вяскоўцы, на цэлую вярсту. Наша хата стаяла ў пачатку вёскі, а хата Памасёва, у якой мела быць школа, была на другім канцы. Колькі мела быць вучняў, ніхто яшчэ ня ведаў, ніхто не рабіў сьпісу школьнікаў. Адно было ведама, што амаль у кожнай хаце было па трос-чацьвёра дзяцей у школьным веку, а да гэтых даходзілі й пераросьлыя, якія таксама маглі прыйсьці ў школу. Яшчэ няясна было, якія гаспадары пашлюць дзяцей, а якія не пашлюць.

Пачатак заняткаў у школе прыпаў прыблізна на палавіну лістапада, калі не было пільнай працы падлеткам пры малацьбе, а меншай дзетвары ня трэба было пасьвіць жывёлу. На першы дзень заняткаў сабралася шмат вучняў ды іхных мацярок, а нават крыху мужчынаў. Я прыйшоў у школу вучыць сваіх сяброў разам з выбарным. Ён, як улада нашай вёскі, зважаў за абавязак "прадставіць" мяне, як "дырэктара" школы, і бацькам, і школьнікам. Хоць я ўжо й працаваў паўзімы прыватным памагатым Ядзі ў Інаўскай школе, ды ўсё ж перад пачаткам працы хваляваўся, а найбольш непакоіўся, ці змагу трымаць патрэбную дысцыпліну. Тут жа, сярод вучняў, было шмат маіх равесьнікаў, маіх сяброў. Яны часамі б маглі набіць і скампрамітаваць мяне перад школьнікамі, дый перад грамадзтвам вёскі. Я змабілізаваў усе свае сілы, каб перамагчы хваляваньне й духовы неспакой. Але трывогі маёй нельга было схаваць, бо выбарны, падыходзячы да Памасёвай хаты, сказаў: "Ты, брат, ня трусі, я тут наваду такі парадак, што будуць цябе баяцца й вучыцца, як міленькія".

Калі мы ўвайшлі ў хату, дык там гуло як у вульлі. Усе нас сустрэлі позіркамі павагі й дзелавітасьці. Усе замоўклі, глядзелі на нас. У гэты час, нечакана нават для мяне, Стасюк Хвашчонак пачаў паказваць сваю ўладу. Гучным голасам падаў каманду: "Устаць! Што вытрашчылі вочы, як авечкі, відзеце, што ў клас увайшоў вучыцель з выбарным?!"

Усе схапіліся, і вучні, і бацькі, і стаялі нерухома?? Тычкі, глядзелі на нас, чакаючы, як быццам, далейшай каманды. Стасюк моўчкі абвёў усіх сур'ёзным позіркам і загадаў: "Садзіцеся!" У клясе запанавала мёртвая цішыня. Тады Стасюк выняў з-за пазухі нагайку на казьлінай ножцы, патрос перад аўдыторыяй і сурова прамовіў, паказваючы на мяне: "Вось вам Марыян Юзюка Дамінічонка (наша вясковая клічка была Дамінічонкі). Ад сёньня ён назначаецца вашым вучыцелем. Вы павінны яго слухацца яшчэ больш, чым сваіх бацькоў. Ён будзіць вучыць вас чытаць, пісаць, лічыць і маліцца Богу па ксёнжцы. Калі каторага за дурную навуку ці за то, што будзіць дурэць і другім мяшаць вучыцца, паставіць у кут, той павінен слухацца й сваю кару адбываць. А калі каторы будзіць непаслухмяны, ды яшчэ й дрэнна вучыцца, - то я прыйшоўшы, вот гэтай нагайкай скуру зьніму, задніцу сьпішу так, што нядзелю не прысядзеш. Ну, дык што, будзеце слухацца свайго вучыцеля?" Усе хорам адказалі: "Будзем".

З гэтай "урачыстай" хвіліны стаўся я паўнапраўным "дырэктарам" школы ў Цяцерках, дзе ніколі не было ні польскай, ні расейскай школы, апрача такой, у якой вучыла мяне цётка Паўліна. Выкладовай мовай у гэтай школе........ была мова беларуская, бо расейскую й польскую.... ведаў я слаба. Усе паясьненьньні на лекцыях адбываліся па-беларуску. Праграмы школьных заняткаў не было, не было падручнікаў. "Падручнікам" была кожная прынесеная кніжка ці часопіс. Найбольш было "падручнікаў" у польскай мове, у асноўным малітоўнікі. Хатнія заданьні даваў кожнаму па тым падручніку, які хто прынёс. Практычна

выходзіла так: колькі было вучняў, гэтулькі й клясаў, бо кожны меў свой узровень, сваё заансаваньне й сваю літаратуру. Гэта што да навукі чытаньня. Пісаньне й арыфмэтыку можна было навучаць групай. І фактычна ўсе належылі да адной групы пачынаючых.

Праца ў Цяцерскай школе аж да вясны адбывалася нармальна. Ніякіх вялікіх канфліктаў між мною й вучнямі не было. Як-ніяк завадыякі баяліся абяцанай нагайкі на казьдінай ножцы, якую б не пасаромеўся б пусьціць у ход наш школьны "інспэктар" Стасюк Крывашонак, якога ад часу заснаваньня школы вяскоўцы празвалі "шпэктар". Яны былі вельмі задаволеныя са школы й з настаўніка, а таму "апазыцыя" скапітулявала й таксама паслала сваіх дзяцей вучыцца. Слава пра Цяцерскую школу пачала разыходзіцца ў навакольлі, ад таго мае бацькі ганарыліся , і мяне пачалі больш паважаць дома.

Напрацягу ўсёй зімы школа папаўнялася новымі вучнямі, асабліва пераростымі. Заахвочваў іх той факт, што настаўніку ня трэба было плаціць, хіба толькі раз зьсьдзілі па дровы для школы. Уборшчыца таксама была бясплатная. Прыбірала школу Панасёва нявестка. Дл мяне й маіх бацькоў заплатай быў гонар і пашана настаўніка.

"Дырэктарства" маё працягвалася аж да вясны. Пачалі таяць і пачарнелі ад бруду сьнежныя гурбы. На лугох ды йржэўніку на прыслоне пачала зьяўляцца зялёная травіца, пачалі зьнікаць са школы й мае вучні. Спачатку пагналі пасьвіць авечак, пасьля карміцеляк-каровак, а большыя мае вучні ўзяліся за сохі й плугі ды пайшлі рыхтаваць родную зямельку пад пасевы прышлых ураджаяў. Школа зачынілася, а я таксама пайшоў за плугам сьледам за нашым бедным, сьляпым Мішкам.

*(З кнігі: М.Пецюкевіч.*
*У пошуках зачараваных скарбаў. Вільня. 1998. С.31-35*

**14 жніўня 1926 г. у в.Цяцеркі арганізаваны гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. Ініцыятарамі стварэння былі Мар'ян Пецюкевіч і ксендз Барадзініцкай парафіі Віктар Шутовіч, актыўны дзеяч беларускага нацыянальнага руху.**



**Кніга са штампам бібліятэкі імя Ф.Скарыны ў в.Цяцеркі. Паводле ўспамінаў пляменіка этнографа, яго цёзкі, Мар"яна Пецюкевіча, які жыве ў Гомелі, пасля вайны штамп, а таксама пячатка БІГіК знайшліся на гарышчы хаты Пецюкевічаў. Іх далейшы лёс невядомы.**

# Цяцеркі. Незавершаная манаграфія

*Мар'ян Пецюкевіч рыхтаваў асобную працу прысвечаную сваёй роднай вёсцы, матэрыяльнай і духоўнай культуры яе жыхароў. Манаграфія так і не пабачыла свет. У архіве Торуньскага этнаграфічнага музея зберагаюцца матэрыялы для гэтай працы. Яны яшчэ чакаюць свайго руплівага даследчыка. Магчыма колькасць і якасць сабраных звестак дазволяць з часам падрыхтаваць матэрыялы да друку. Матэрыялы да манаграфіі зберагаюцца па планаваных М.Пецюкевічам раздзелах. Сярод іх: гісторыя вёскі і жыхары (у т.л. спісы жыхароў (14 старонак), выпіскі з літаратуры (80 старонак!), геаграфічнае палажэнне і тапанімія (у т.л. слоўнік па мясцовай тапаграфіі Цяцерак на 26 старонак), збіральніцтва, паляванне, рыбалоўства, пчалярства, земляробства і жывёлагадоўля ( у т.л. спісы гаспадарак, слоўнікі па гэтых кірунках дзейнасці), апрацоўка лёну, кавальства, розныя кірункі матэрыяльнай культуры (транспарт, рамёствы, будаўніцтва, выраб тканін, хатняе начынне ( ут.л. спіс самых старых хат, слоўнікі), сямейныя адносіны, рэлігійныя стасункі, народная медыцына, духоўная культура, народная літаратура (у т.л. тэксты апавяданняў, прыслоўяў, песняў, праклёнаў). Зберагаецца таксама фотаархіў да працы – здымкі, негатывы. Частка фотаматэрыялаў была выканана пляменнікамі этнографа Уладзімірам і Мар'янам Пецюкевічамі ў 1976 г. значыць і ў гэты перыяд, незадоўга да смерці М.Пецюкевіч працаваў над манаграфіяй.*

*Хацелася б верыць, што землякі змогуць азнаёміцца з гэтымі матэрыяламі Мар'яна Пецюкевіча, адно пералік якіх выклікае вялікую зацікаўленасць.*



**Калядная маска з в.Цяцеркі. Малюнак маскі змясціў у сваёй манаграфіі "Kultura ludowa słowian" настаўнік М.Пецюкевіча прафесар К.Машынскі.**

# ЗАЧАРАВАНЫЯ СКАРБЫ ВІЛЬНІ

У Вільні, старажытнай сталіцы Вялікага княства Літоўскага, Мар'ян Пецюкевіч атрымаў сярэднюю адукацыю, набыў прафесію этнографа, пашырыў кола сяброў-аднадумцаў у беларускіх справах, спазнаў радасць творчай і грамадскай працы дзеля будучыні сваёй улюбёнай Бацькаўшчыны.

*"Увесь шлях, які вёў мяне зь вёскі Цяцеркі, што на прыгожай, азёрнай са шматлікімі барамі Браслаўшчыне, да зачараваных скарбаў у Вільні, быў цяжкай Кальварыяй. Дапамаглі мне асягнуць мэту Бог, Бацькі, добрыя людзі й маё жаданьне, праца й цярпеньне"*

***Мар'ян Пецюкевіч***

Уражвае актыўная грамадская праца Мар'яна Пецюкевіча ў віленскі перыяд. У Таварыстве прыяцеляў беларусаведы пры ўніверсітэце ён узначальваў секцыю этнаграфіі, з'яўляўся супрацоўнікам газеты "Беларуская крыніца", быў адным з ініцыятараў заснавання часопіса "Шлях моладзі" і доўгі час кіраваў рэдакцыяй, працаваў у Беларускім Інстытуце Гаспадаркі і Культуры, Беларускім студэнцкім саюзе, Беларускім касцельным хоры, Беларускім нацыянальны камітэце.



Ża Tavarystva

Kiraŭnik Sekcyi Etnohraf.

**Падзяка Таварыства прыяцеляў беларусаведы жыхару в.Барадзінічы Антону Рыдзіку з подпісам Мар"яна Пецюкевіча. 1935 г. (*Са збораў Браслаўскага музейнага аб"яднання)***

У 1922-26 гадах Мар'ян Пецюкевіч вучыўся ў Віленскай Беларускай гімназіі, закончыў сярэднюю адукацыю ў 1927 г. у Радашковічах. У 1927 г. быў прыняты ў Карлаўскі універсітэт (Чэхаславакія), але дабрацца да месца вучобы не здолеў. Да 1929 г. знаходзіўся на вайсковай службе. Пасля атрымання атэстата ад Віленскай школьнай куратарыі паступіў у Віленскі ўніверсітэт імя Стэфана Баторыя. З 1 кастрычніка 1929 г. пачаў навучанне на гуманістычным факультэце ўніверсітэта.



**Мар"ян Пецюкевіч у час вучобы**

*"На 3-ім і 4-ым курсе я выразна акрэсьліў, што галоўным кірункам маіх студыяў зьяўляецца этнаграфія з этналёгіяй, а галоўным пабочным прадметам мае быць славістыка, гэтак званы курс элемэнтарны, які вёў праф.Э.Кашмідар. Я зразумеў, што для мяне, будучага беларускага этнографа, неабходная веда з галіны ўсходнеславянскага мовазнаўства. Іпоруч з этнаграфіяй славістыку я трактаваў вельмі паважна. Лічыў, што "элементарнай" веды, прадбачанай праграмай, для мяне было б замала і пачаў выходзіць за рамы праграмы й саматужна пашыраць і паглыбляць сваю веду, асабліва з мовы беларускай і стараславянскай"*

***Мар'ян Пецюкевіч***

У Вільні Мар'ян Пецюкевіч напісаў больш за 200 артыкулаў публіцыстычнага і навуковага характараў, размешчаных у беларускіх, польскіх, літоўскіх, рускіх перыядычных выданнях ("Беларуская крыніца", "Шлях Моладзі", "Сялянская ніва", "Kurjer Wileński", "Słowo", "Żagary", "Poprostu" і інш.



УВАГІ

дзеля запісываньня беларускай народнай творчасьці і абрадаў.

*У часопісе "Шлях Моладзі" Мар'ян Пецюкевіч пад псеўданімам Марвіч друкуе вершы. Гэта палымяныя звароты да моладзі, пранікнутыя аптымізмам, энергіяй, верай у лепшую будучыню.*

* * *

**ВЯСНА, ВЯСНА ...**

Вясна, вясна жыцьця майго,
Дзе зьнікла ты, куды пайшла?
Шукаю я шляху твайго
І клічу ўсьцяж, каб зноў прыйшла.

Вясна-красна, вярніся узноў
Улі жыццё маёй душы
У сэрцы мне сагрой ты кроў
Халодны лёд у ім скрышы ...

Пашлі прамень у душу маю
Збудзі ахвоту да жыцьця
Адкрый мне тайніцу сваю
Развей ты хвару небыцьця.

Няма вясны, пайшла ўжо прэч,
Яна не вернецца ка мне
Дык сьніць я буду кожну ноч
Аб прошлай, радаснай вясьне.

*М. Марвіч. Шлях Моладзі. 1929 г.*

**ПЕСЬНЯ МОЛАДЗІ**

Уставайце, сябры, за работу
хапайцесь,
Даволі ў бяздзейнасьці млець!
За праўду, за шчасьце адважна
змагайцесь,
Прад страхам ня трэба дрыжэць.
Мы доўта блудзілі ў цемры няведы,
Ня знаючы імя свайго,
Мы лекаў ня мелі на нашыя беды,
Прасілі ратунку чыйгось.
Цяпер ужо знаем, што мы Беларусы,
Што мы шматмільённы Народ,
Што з даўных вякоў мы цярпелі
прымусы,
Як быццам мы выкляты род.
Дык дружна наперад, адважнай ступою,
Пойдзем сабе шчасьце каваць,
З надзеяй у сэрцы і з верай жывою
Пачнем мы свой край будаваць.
А шлях нам праўдзівы Пагоня
пакажа,
Якім мы павінны ісьці.
Хоць вораг адвечны, мо, шлях нам закажа,
Прашкоды мы мусім прайсьці.
Мы клічам славянаў да згоды
супольнай,
Каб брацкая міласьць была,
Каб праўда Хрыстова міжлюдзкасьці
вольнай,
Як макавы цьвет, расьцвіла.

*М. Марвіч. Шлях Моладзі. 1929 г.*

*"Ганарару сваім супрацоўнікам не плацілі й сабе за працу ў рэдакцыі, адміністрацыі, дый друкарам не выплочвалі ані граша. Сродкаў, якія мы здабывалі з падпіскі, хапала ледзь толькі на паперу, экспедыцыю, на штрафы, на канфіскаты й на адваката. Ĭ гэтак наш часопіс "Шлях Моладзі", выконваючы сваё пачэснае нацыянальнае заданьне ў вельмі трудных варунках прайснаваў аж да пачатку 2-ой Сусьветнай вайны."*

**Мар'ян Пецюкевіч**

# Кара за службу народу

*Другая сусветная вайна рэзка змяніла лёс Мар'яна Пецюкевіча. Савецкая ўлада абвясціла народам Заходняй Беларусі, што прынесла ім свабоду. Але гэта была мана, страшная хваля рэпрэсій пракацілася па краі. Ахвярамі рэпрэсій былі і беларускія нацыянальныя дзеячы.*

*Тры арышты зведаў Мар'ян Пецюкевіч. Першы раз ён быў арыштаваны НКУС у студзені 1945 г. і адсядзеў у вязніцы да сакавіка таго ж года. 27 сакавіка 1949 г. Мар'ян Пецюкевіч разам з жонкай Альдонай, дочкамі Марыяй і Міраславай быў арыштаваны і сасланы ў мясцовасць Ужур Краснаярскага краю. 31 ліпеня 1952 г. зноў арыштаваны і сасланы на 25 гадоў у Варкуту. У 1957 г. справа М. Пецюкевіча была перагледжана, з яго было знята пакаранне.*

---

*Аднойчы, а гэта было 31.07.1952 на сьвітаньні, калі мы яшчэ спалі, акружыла нашу хату міліцыя. У хату зайшлі 4 чалавекі, сярод якіх мы, спалоханыя са сну, распазналі начальніка раённага аддзяленьня МВД маёра Ягошына, камэнданта спэцпасяленцаў – лейтэнанта Уласіка й двух незнаёмых, апранутых па-цывільнаму. Падсунулі яны мне, яшчэ паўсоннаму, дакумант да прачытаньня й падпісаньня. Быў там прыблізна такі зьмест тэксту: «На основанни решения Генерального Прокурора ЛССР гражданнн Мариан Петюкевич 1904 года рождения, проживающий в Ужурском районе по статье 58 Уголовного кодекса СССР должен быть задержен н доставлен в распоряжение прокуратуры ЛССР...»*

*Гэты дакумант запачаткаваў новы й незвычайна цяжкі пэрыяд для ўсёй маёй сям'і. Мяне схапілі й павезьлі ў Вільню на доўгатрывалае сьледзтва й суд, на аснове якога я атрымаў 25 гадоў катаржнай працы ў Запалярных лягерох у Варкуце (Комі АССР), дзе зусім страціў здароўе й ледзь выжыў, але затое духова змацаваўся, загартаваўся да барацьбы й працы на карысьць Роднай Беларусі, спазнаў усю пэрфіднасьць маскоўскага сацыялізму й камунізму, які з такім размахам «будуе» цяпер геніяльны Брэжнеў.*

*Мой лёс быў ясны. Нам сказалі ў Варкуце: «Будете здесь работать, пока силы хватит, а потом подохните и никогда не вернётесь в свои родные места, к своим семействам». Душа мая балела за нявінных дачушак і жонку, якія засталіся пакутаваць на чужыне за бацькавы «грахі». Мала таго, што яны засталіся без бацькоўскай апекі, бяз мужняй дапамогі ў страшэнна цяжкім матар'яльным, фізычным і маральным жыцьці, без свайго даху над галавою, – але над імі пачаўся перасьлед і маральны зьдзек за мужа й бацьку, «злейшего врага советского народа».*

*(З кнігі: М. Пецюкевіч. У пошуках зачараваных скарбаў. Вільня. 1998. С.159-160*



**Мар"ян Пецюкевіч (у цэнтры) сярод выкладчыкаў лагернай школы. Варкута. 1954-56 гг.**

# МАР"ЯН ПЕЦЮКЕВІЧ:
## У Торуні.

Пасля вызвалення Мар'ян Пецюкевіч на кароткі час завітаў у Вільню, а потым выехаў у Польшчу, дзе ўжо знаходзілася яго сям'я.


Prezydium Powiatowej Szczecinek dnia 1.10.1956 r.
Rady Narodowej w Szczecinku.

Zaświadczenie

Prezydium Powiatowej Rady Narodowej w Szczecinku stwierdza,

Wymieniony (a) w dniu 17 września 1939 r. posiadał (a) obywatelstwo polskie.

Prezydium Powiatowej Rady Narodowej w Szczecinku wydaje niniejsze zaświadczenie w celu przedstawienia władzom ZSRR.

KIEROWNIK WYDZIAŁU (ODDZIAŁU)

**Пасведчанне для выкліку М.Пецюкевіча з СССР у Польшчу на сталае жыхарства. 1956 г. (*Са збораў Браслаўскага музейнага аб"яднання*)**

У Польшчы атрымаў усе правы грамадзяніна. Дзякуючы быламу выкладчыку, прафесару Казіміру Машынскаму і прафесарцы Марыі Знамяроўскай-Прэферовай, атрымаў працу ў аддзеле этнаграфіі Акруговага музея ў Торуні ў якасці асістэнта. Браў актыўны ўдзел у працы Грамадскага камітэта будоўлі Этнаграфічнага музея ў Торуні. Пасля арганізацыі музея стаў адным з першых яго супрацоўнікаў і працаваў у ім да выхаду на пенсію ў 1970 г. Праводзіў навуковыя даследаванні, папаўняў музейныя зборы і ўвесь час кіраваў музейнай бібліятэкай. Стварыў экспазіцыі матэрыяльнай культуры беларусаў.

Падчас торуньскага перыяду жыцця Мар'ян Пецюкевіч падтрымліваў кантакты з беларускімі дзеячамі, якія таксама апынуліся ў Польшчы, цесна супрацоўнічаў з Беларускім грамадска-культурным таварыствам у Беластоку, быў адным з сяброў праўлення Таварыства, публікаваўся ў беларускіх перыядычных выданнях Польшчы (асабліва ў "Ніве"), даследаваў культуру беларусаў Беласточчыны, збіраў этнаграфічныя калекцыі і арганізоўваў выставы, дапамагаў у арганізацыі рэгіянальнага музея ў Белавежы.

Мар'ян Пецюкевіч памёр 25 верасня 1983 года. Пахаваны ў Торуні.



**Торуньская паштоўка з пячаткай Таварыства сяброў этнаграфічнага музея, дасланая М.Пецюкевічам. (*Са збораў музейнага аб"яднання*)**

**У Браслаўскім гістарычна-краязнаўчым музеі зберагаецца 7 лістоў і паштовак Мар'яна Пецюкевіча да сям'і сястры Яніны, якія перадаў яе муж Ігнат Данісевіч. Данісевічы жылі ў в.Хмызютках, непадалёку ад Вільні. Лісты напісаны М.Пецюкевічам у Торуні і датуюцца першай паловай 70-х гадоў XX стагоддзя. Асноўны іх змест – сямейныя справы, але сустракаюцца і даволі цікавыя звесткі.**

### З ліста Мар'яна Пецюкевіча ад 26 кастрычніка 1972 года.

*... Быўшая настаўніца ў Вуглах, колішняя мая сімпатыя, якая пасля працавала дзесьці за Браслаўем, напісала да мяне, што ў тым горадзе жывець дзе і яна быўшы камендант нямецкай паліцыі ў Браслаўі, нейкі Запольскі Ян. Ён ліквідаваў Браслаўскіх жыдоў ды і многа нарабіў зла і крыўды людзям са сваёй бандай. За сувязь з сав.партызанкай арыштаваў вось гэту настаўніцу Марысю, якую чуць не расстралялі немцы ў Дзьвінскай крэпасці, а пасля вывезлі ў лагер у Нямеччыну, адкуль яна ледзь жывая вярнулася пасьля вызваленьня і ў Браславі ў знаёмых, якія заапекаваліся знайшла свайго сына, шасьцілетняго хлопчыка. Забраўшы сына, прыехала ў Польшчу і тут працуе ў сярэдняй школе.*

*Вот мне насунулася думка, ці ня гэты камендант са сваёй бандай прыязджаў у Цяцеркі і хацеў расстраляць Мамуню і Ганэрка? Калі ты – Ігнацы і Яніна, што ведаеце пра гэты факт, то без адкладна напішыце такія даныя:*

*1. Як выглядаў той "камендант"? высокі ці іншы.*

*2. На якой мове яна, гэта банда, гаварыла між сабой і зварочваліся да нашых?*

*3. Якога чысла або месяца, у якім годзе яны прыязджалі ў Цяцеркі? Сколькі іх было гэтых бандытаў? Чаму яны чапляліся да Мамуні і Ганэрка?*

*4. Хто выратаваў нашых ад расстрэлу, ці суседзі, ці хто іншы. Калі хто чужы, то дзе цяпер пражываець?*

*Весткі гэтыя абавязкова мусіце сабраць і зараз мне прысланць. Гэты бандыцкі камендант разыгрывае ў Польшчы заслужанага партызана. Усё гэта яму пасьведчылі фальшывыя сьведкі з Браслаўшчыны, якія таксама па локаць рук у крыві нявінных людзей, або нячыстае сумленьне. Злачынца мусіць атрымаць заслужаную кару. Гэта справа пільная.*

*Трэцяя справа. Ігнацы, браток, ты пры дапамозе Яніны прыпомніце і падлічыце, рабочы спісак Цяцерскіх усіх жыхароў, якія былі ў нашай вёсцы да пачатку вайны, гэта значыць да верасня 1939 г. Да маёй працы, якую я пішу аб Цяцерках патрэбна ведаць сколькі кожны гаспадар (паіменна) меў зямлі; каб ведаць, сколькі было валочнікаў, паўвалочнікаў, траціньнікаў, чацьвярціньнікаў, асьміньнікаў і г.д. і ў канцы, каб ведаць, сколькі валок усёй зямлі было ў Цяцерках. Я прабаваў прыпомніць, але некаторых ужо забыў. Зроб для мяне гэта, Ігнацы. Зрабі і такі сьпісок кожнага гаспадара: прозьвішча, імя, колькасьць зямлі. І добра было б, каб пры фаміліі як яго ў вёсцы празывалі, як напрыкл. Барабан, Бацюк, Юстынёнак, ... і г.д.*

*На гэтым канчаю і шлём усім родным пацалункі. Чакаю скорых вестак.*

*Ваш Мар'ян.*

# МАР"ЯН ПЕЦЮКЕВІЧ:
## Важнейшыя публікацыі.

Сам Мар'ян Пецюкевіч адзначаў, што толькі ў міжваенны перыяд меў за 200 публікацый. Захавалася некалькі спісаў апублікаваных прац, складзеных самім этнографам. Яны маюць ад 30 да 40 пазіцый. Да гэтай бібліяграфіі можна далучыць некалькі публікацый мемуарнага характару, у тым ліку дзве асобныя кніжкі. Сярод публікацый М.Пецюкевіча між іншым ёсць:

**Увагі дзеля запісваньня беларускай народнай творчасьці і абрадаў з праграмамі: 1) Дзеля запісваньня пахавальных абрадаў; 2) Памінальных дзён (Дзядоў). Вільня 1933.**

**Мікалай Нікіфароўскі – беларускі этнограф. Калосьсе. 1935. Кн.4.**

**Беларуская мэлёграфія. Бібліёграфічны нарыс. Калосьсе. 1936. Кн.2,3.**

**Kaziuk. Kirmašnyja zvyčaji.4.III u Vilni. Znič. 1952. №17.**

**Аб паходжаньні назвы Беларусь. Ніва. 1957.№7.**

**Родная мова – найбольшы скарб чалавека. Ніва. 1957. №48.**

**Прозвішчы. Ніва. 1959. №25,26.**

**Апытальнік да народнага адзеньня, абутку і аздабленьня. Беласток. 1959.**

**Старадаўнія велікодныя звычаі ў беларусаў. Ніва. 1960. №16,17.**

**Старадаўнія Юр'еўскія звычаі ў беларусаў. Ніва. 1961. №15.**

**Каляды – старадаўняе свята памерішых. Ніва. 1965. №52.**

**Мае сустрэчы з Браніславам Тарашкевічам. Ніва. 1967. №4.**

**Народная культура Беласточчыны ў фондах Этнаграфічнага музея ў Торуні. Ніва. 1967.**

**Памяці прафесара К.Машынскага. Ніва. 1975. №22.**

**Wkład Kazimierza Moszyńskiego do badania kultury ludowej Białorusinów // Kazimierz Moszyński. Życie i twórczość. Kraków. 1976.**

**Першы арышт. Рунь. 1998. №1-2.**

**У пошуках зачараваных скарбаў.Вільня. 1998.**

**Кара за службу народу. Беласток. 2001.**



# МАР"ЯН ПЕЦЮКЕВІЧ:
## Важнейшыя публікацыі пра жыццё і дзейнасць.

**Пецюкевіч Мар'ян. Этнаграфія Беларусі. Энцыклапедыя. Мн., 1989.**

**М.Лобач. Лічыў за гонар быць беларусам. Наша слова. 1992. №50.**

**М.Пецюкевіч. Пра Марыяна Пецюкевіча. Рунь. 1997. №9.**

**Руплівец беларускай культуры (з аўтабіяграфіяй). Памяць. Браслаўскі раён. Гісторыка-дакументальная хроніка. Мн., 1998.**

**В.Лабачэўская. Аб працы М.Пецюкевіча "Архаічныя (прымітыўныя) рысы ў народнай культуры стараабраднікаў Браслаўскага павета" // Браслаўскія чытанні. Матэрыялы V-й навукова-краязнаўчай канферэнцыі. Браслаў. 2001.**

**Пецюкевіч Мар'ян. Беларуская энцыклапедыя. Т.12. Мн., 2001.**

Пры падрыхтоўцы нумара скарыстаны матэрыялы, прадстаўленыя Элеанорай Зінкевіч (Браслаў), Вольгай Лабачэўскай (Мінск), Уладзімірам Пецюкевічам (Мінск) і Мар"янам Пецюкевічам (Гомель)

« ПАВЕТ » DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)